ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 86 (1723) | Пятніца, 26 кастрычніка 1962 года | Цана 4 кап.

**РАБОТНІКІ ДРУКУ, РАДЫЁ І ТЭЛЕБАЧАННЯ, ВЫДАВЕЦТВАЎ І КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫХ УСТАНОЎ! БУДЗЬЦЕ БАЯВЫМІ ПАМОЧНІКАМІ ПАРТЫІ Ў ЯЕ БАРАЦЬБЕ ЗА ПЕРАМОГУ КАМУНІЗМА!**

З Заклікаў ЦК КПСС да 45-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

# Мы з табою, Куба!

## ПЕРАМОЖАМ!

Венсерэмас! Пераможам! Гэты баявы пакліч кубінскіх паўстанцаў гучыць сёння, як сімвал, як пароль усіх, каму дарагая справа свабоды, каму дарагая справа міру.

Сёння яны непарыўныя — барацьба за свабоду Кубы і барацьба за мір. Не можа савецкі народ, савецкая краіна заставацца ў баку, калі Злучаныя Штаты аб'явілі блакаду Кубы. Ваеннамарскому флоту ЗША аддадзены загад, заявіў прэзідэнт Кенедзі, затрымліваць усе судны, якія ідуць на Кубу, правяраць іх і не прапускаць тыя, што вязуць кубінцам зброю. Аддадзены таксама загад весці няспынны і пільны нагляд за Кубай.

Гэтая нахабная заява выклікала абурэнне ва ўсім свеце. «Імперыялістычныя колы ЗША спрабуюць дыктаваць Кубе, якую палітыку яна павінна праводзіць, якія парадкі трэба ўстанаўліваць у сябе дома, якую зброю яна павінна мець для сваёй абароны,— гаворыцца ў Заяве Савецкага урада. — Але хто даў права Злучаным Штатам браць на сябе ролю вяршыцеля лёсу іншых краін і народаў? Чаму кубінцы павінны вырашаць унутраныя справы сваёй дзяржавы не паводле свайго меркавання, а так, як хацелася б ЗША. Куба належыць кубінскаму народу і толькі ён можа быць гаспадаром свайго лёсу».

Савецкі ўрад, урад дзяржавы, якая лічыць свяшчэнным для сябе рэвалюцыйны і інтэрнацыянальны абавязак, рашуча адхіляе агрэсіўныя дамаганні амерыканскага імперыялізму. Савецкі ўрад звярнуўся з сур'ёзнай перасцярогай да ўрада ЗША.

Прынцыповы і паслядоўны абаронца міру, Савецкі ўрад паставіў на разгляд Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пытанне «Аб парушэнні статута ААН і пагрозе міру з боку Злучаных Штатаў Амерыкі». Разам з тым Савецкі ўрад даў міністру абароны СССР неабходныя ўказанні па павышэнню баявой гатоўнасці Ўзброеных Сіл СССР.

Цвяроза ацэньваючы напружанасць, якая ўтварылася ў свеце ў выніку правакацыйных дзеянняў імперыялістаў, Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў у адказе англійскаму вучонаму і грамадскаму дзеячу Бертрану Раселу падкрэсліў, што Савецкі Саюз прыкладзе ўсе намаганні, каб полымя вайны не зашугала на нашай планеце.

Савецкі народ аднадушна падтрымлівае цвёрдую палітыку свайго ўрада.

## ГРУГАНЫ

Не кружыцеся, груганы,
Апантаны спыніце ўзлёт!
Хай не цешыць вас прывід вайны
І надзея — скарыць народ!

Падымаюцца жэрлы гармат,
Выгінаюцца спіны ракет,
Але хціўы драпежнік-кат
Не задушыць свабодны свет!

Бо мільённы працоўны гнеў
Скажа вылюдкам грознае: —
Стой!
Скажа мужнае грознае: — Не! —
Тым, што страшаць знішчальнай
вайной.

Дык не каркайце, груганы,
Годзе, хціўыя, вам кружыць!
Хай не цешыць вас прывід
вайны.
Куба вольная будзе жыць!

Станіслаў ШУШКЕВІЧ.

## ДАЛУЧАЮСЯ

Зноў трывожныя весткі з Кубы... Мы ўсе прыслухоўваемся да іх з хваляваннем, абурэннем, гневам. Бо кожнага сумленнага чалавека хвалюе барацьба мужнага народа маленькага гераічнага вострава, абурае і гнявіць нахабнасць амерыканскіх заправіл. Але я чакаю паведамленняў аб падзеях у Карыбскім моры з асабліва трапяткім пачуццём. Там, на Кубе — мой сын. Вось ужо сем месяцаў, як разам з жонкаю ён паехаў у Гавану выкладаць рускую мову. Рускую мову, яе фанетыку, марфалогію, сінтаксіс. Чуеце, містэр Кенедзі, фанетыку, марфалогію і сінтаксіс, а не вайсковую справу! Запэўняю вас, што ні сыну майму, ні яго кубінскім вучням не патрэбны ні гарачыя, ні халодныя войны. Вось перада мною пісьмы з гаванскім штэмпелем. Аб чым пішацца ў іх найбольш? Пра ўздым, з якім збіраюць кубінцы кофе, пра выступленні Фідэля Кастра, пра нацыянальнае свята — дзень маці, пра адкрыццё першага ў краіне Палаца піянераў... Хіба падобныя справы пагражаюць нацыянальнай бяспецы ЗША, містэр Кенедзі?

Але я трывожылася б менш, калі б не напісаў мне аднойчы сын і пра іншае. Пра тое, як ваенныя караблі Злучаных Штатаў — караблі, што падпарадкоўваюцца вам, містэр прэзідэнт, — абстралялі квартал Гаваны. Квартал, у якім знаходзіцца і навучальная ўстанова, дзе працуе сын. Дык хіба магла я не вітаць рашэнне ўрада маёй краіны памагчы маленькай рэвалюцыйнай Кубе не толькі падручнікамі, сельскагаспадарчымі машынамі, станкамі, спецыялістамі, а і ўзбраеннем! Хіба магу я не далучыцца да закліку Савецкага ўрада, да ўсіх урадаў і народаў узняць голас пратэсту супраць агрэсіўных дзеянняў ЗША ў адносінах Кубы!

Акіянская адлегласць паміж Мінскам і Гаванай. Але што значыць адлегласць у наш час! Трывога, спадзяванне, упэўненасць кубінскага народа — гэта і наша трывога, спадзяванні, упэўненасць.

Трывога за лёс маленькага, але непахіснага вострава рэвалюцыі.

Спадзяванне, што грознае папярэджанне Савецкага ўрада астудзіць гарачыя галовы вашынгтонскіх атамных вар'ятаў.

Упэўненасць, што мір пераможа!

Л. ШЫНКО,
заслужаная артыстка БССР.

## У АДНЫМ СТРАІ

Я не быў на Карыбскім моры,
Я не бачыў кубінскіх зораў,
Шуму пальмаў кубінскіх не чуў.
Ды адлегласці нас не раздзеляць,
Думкай я на радзіму Фідэля,
У Гавану, далёка, лячу.

Вось ён — мужны палаючы
востраў,
Вось — браты нашы, нашы
сёстры,
Вось — усмешкі найлепшых
сяброў.
А на моры Карыбскім — зоры,
Як на нашых блакітных
азёрах,—
Быццам чыстае серабро.

Горад шумны пад небам светлым
Расцвітае, як радасць свету, —
Горад песні і сонца...
Ды вось —
Мора хмурыць шырокія бровы,
І трывожна трыснёг цукровы
Зашумеў на плантацыях скрозь.

Хабатамі ствалы гарматаў
Пацягнуліся з боку Штатаў,
Цень кідаюць на морскую сінь;
Горды востраў янкам нялюбы,
Яны хочуць зняволіць Кубу
І цудоўнае сонца згасіць.

Не, не збыцца, гангстэры, гэтаму:
Лёсам Кубы уся планета
Устрывожана, як сваім.
Іскры сэрцаў людскіх на свеце
Кубе зырка свяцілі і свецяць, —
З Кубай мы у адным страі!

Кастусь ШАВЕЛЬ.

## НІЯКАЙ ЗБРОЯЙ НЕ ПЕРАМАГЧЫ ПРАЎДЫ

Сонечная Куба! Кветкавая Куба! Песенная Куба! Тваё сонца хочуць засланіць чорныя хмары вайны. Тваю квецень хочуць растаптаць варожыя салдацкія боты. Твае песні хочуць заглушыць выбухамі бомб азвярэлыя імперыялісты.

Беларусі вядомы гады цяжкай няволі і гераічнай барацьбы, салют слаўнай перамогі і шчасце вольнай працы.

Ніякім хмарам не засланіць твайго сонца. Ніякаму ворагу не растаптаць тваёй зямлі. Ніякай зброяй не перамагчы праўды.

Нашы сэрцы з табою, дарагая Куба!

Ніна ТАРАС.

## СЛОВЫ ГНЕВУ

Выкладчыкі і студэнты Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута на мітынгу пратэсту кляймілі ганьбаю амерыканскіх падпальшчыкаў новай вайны, выказвалі сваю салідарнасць з народам гераічнай Кубы.

— Я ўсёй душою падтрымліваю заяву Савецкага ўрада, — заявіў студэнт рэжысёрскага факультэта Мікола Агароднікаў. — Няхай наша слова дойдзе да моладзі Кубы, няхай кубінскія юнакі і дзяўчаты ведаюць: мы разам з імі!

Студэнт мастацкага факультэта Пётр Драчоў заявіў:

— Куба — краіна, якая будуе сацыялізм, і імперыялістам ЗША не павярнуць назад кола гісторыі, не спыніць пераможнае шэсце сацыялізма. З Кубай усе народы магутнага сацыялістычнага лагера, прагрэсіўныя людзі ўсёй зямлі.

— Ганьба ўраду ЗША, амерыканскаму прэзідэнту! — гнеўна ўсклікае студэнтка Эма Шыкун.

Думку выкладчыцкага складу выказалі прарэктар па навуковай і навучальнай частцы Б. Вішкароў, дацэнт, кандыдат філасофскіх навук А. Ражкоў, выкладчык А. Жураў.

Удзельнікі мітынгу аднадушна адобрылі мерапрыемствы ўрада СССР і паслалі прывітанне свабодалюбнаму народу Кубы.

М. СЕНІН.




## ІДУЧЫ ПА ВУЛІЦАХ МІНСКА...

С. ГЕРУС,
мастак.

Сучаснасць—вось праблема нумар адзін і ў літаратуры, і ў выяўленчым мастацтве, і ў архітэктуры, і ў касцюме, які мы апранаем. Чым смялей будзе ўкараняцца ўсюды сучасны стыль, тым багацейшымі мы будзем духоўна. Адразу ўзнікаюць і словы, якімі, хоць і прыблізна, можна ахарактарызаваць сучасны стыль: гэта нейкая вельмі разумная эканомія матэрыялаў, разумная прастата, логіка і зручнасць, дэмакратычнасць і выдатная якасць, высокая ідэйнасць і мастацкасць у творах мастацтва.

На рэспубліканскіх і ўсесаюзных мастацкіх выстаўках выяўленчага і прыкладнога мастацтва мы сустракаем нямала твораў, сучасных толькі па адлюстраванаму жыццёваму матэрыялу, але архаічных па мастацкай форме; твораў, якія сённяшнюю рэчаіснасць паказваюць сродкамі «Хрэснага ходу на вялікдзень у Курскай губерні» або «Чаяпіцця ў Мыцішчах». Адносна некаторых карцін, скульптур або гравюр проста не хочацца верыць, што яны створаны ў нашы дні.

Не так даўно ў Мінску была арганізавана тэарэтычная канферэнцыя па праблеме сучаснасці ў мастацтве. На маю думку, канферэнцыя прайшла крыху фармальна і вельмі мала дала карысці. Сэнс многіх дакладаў зводзіўся, прыкладна, да наступнага: у галіне тэатра — Станіслаўскі, Неміровіч-Данчанка; у галіне выяўленчага мастацтва — Рэпін, Сурыкаў, Крамской — вось узоры і эталоны творчасці! Ці не ясна, што гэта ні на крок не пасоўвае наперад праблему барацьбы за высокае майстэрства. Новы час патрабуе новага зместу і сваіх, арыгінальных выяўленчых сродкаў. Традыцыі класікі трэба засвойваць, але не ісці сляпа ўслед за імі.

Сучасны стыль... Вельмі складанае гэтае пытанне. Вырашае яго нароўні з усімі відамі мастацтва і наша архітэктура. Вырашае барацьбой думак і практычных рашэнняў.

Сярод архітэктараў можна пачуць: Ленінград—вось гэта прыгажосць!

Безумоўна, Ленінград—адзін з прыгажэйшых гарадоў свету. Але ў той жа час я абсалютна ўпэўнены, што адной з сур'ёзных памылак было рашэнне будаваць пасляваенны Мінск «а ля Ленінград». Нашы архітэктары пераймалі Растрэлі, Вараніхіна, Бажэнава. Праектуючы тэатры, вуліцы, азіраліся на Варанцоўскі палац і Неўскі праспект. У Ленінградзе ўсё—сапраўды прыгожае, таму што гэта лепшае са створанага ў архітэктуры мінулага, аднак гэта ўжо мінулае, XVIII—XIX стагоддзі. Мінск жа—горад сённяшняга дня, і ўсё, што ў ім будуецца, робіцца новымі людзьмі, у наш час. Дзеля гэтага тут разумней было б развіваць традыцыі архітэктара Лангбарда—аўтара нашага Дома ўрада і опернага тэатра, Дома афіцэраў і Акадэміі навук, традыцыі, у якіх збудаван будынак ЦК КПБ архітэктарамі Вараксіным і Воінавым. Трэба прама сказаць, што названыя даваенныя будынкі выглядаюць больш сучаснымі, чым пасляваенныя, і нават некаторыя з тых, што будуюцца сёння, напрыклад, будынак філармоніі на плошчы Якуба Коласа, дзе ў самой задуме архітэктара ёсць штосьці ад шырокіх штаноў, ад канапы з палічкамі і з люстэрачкам.

У архітэктуры, мне думаецца, заўсёды лёгка вырашыць, што—сучаснае, а што—не. Сучасны будынак павінен быць просты і зручны, не абцяжараны празмернымі ўпрыгожаннямі, адкрыты святлу і паветру. Ён разумны і прыгожы, у ім лёгка дыхаць і хочацца жыць. А каменны 'каравай-торт або дамарослы парфенон тыпу нашага Палаца прафсаюзаў, галоўпаштамта або клуба будтрэста № 1 палохаюць чалавека сваім выглядам, прыгнятаюць шматпудовымі ўпрыгожаннямі, бронзаю заседжаных мухамі люстраў, аксамітам запыленых штораў, якімі камандзіраваныя звычайна ў гасцініцах чысцяць чаравікі. Для кожнага разумнага чалавека ён зразумелы, гэты эстэтычна-бытавы крытэрый у вырашэнні сучаснасці архітэктурнага стылю.

Калі я іду па праспекце ў Мінску, мяне амаль ніколі не пакідае пачуццё, падобнае да таго, што адчуваеш, папраўляючы работу студэнта. Бачачы гарадскі пейзаж нібы намаляваным, я ў думках гумкаю выціраю непатрэбныя загагулінкі на універмагу, мяшчанскія фінціклюшкі на суседніх дамах, пашыраю вокны, выкідаю масіўныя калоны, замест двух дамоў раблю адзін вялікі, на вулічных ліхтарах саскрабаю бязглузды раслінны арнамент, да архітэктуры паштамта дадаю штосьці ад Дома ўрада, ад опернага тэатра... І не раз думаю сабе: колькі ж у нашым горадзе чалавечай энергіі, матэрыялаў, грошай, сіл затрачана без патрэбы. Колькі тут непатрэбных агароджаў, усялякіх ліштваў, бязглуздых арнаментаў і ляпных аздоб. Навошта амаль усе скверы ў горадзе абнесены масіўнай чыгуннай агароджай? Можна задаць вельмі многа падобных пытанняў.

Урэшце нашы архітэктары прыйшлі да правільнага вываду, праўда, толькі пасля вельмі разумнай пастановы партыі і ўрада аб празмернасцях у архітэктуры.

Прыгожымі ў архітэктуры з'яўляюцца перш за ўсё вялікія формы, суадносіны паміж вялікімі і малымі плоскасцямі, гармонія ліній.

Паняцце прыгажосці дома неаддзельнае ад патрабавання максімальных выгод для чалавека, усё ў ім павінна быць падпарадкавана гэтаму патрабаванню, усё абавязкова павінна быць разумна накіравана для дабрабыту жыхара. Я лічу, што першае месца ў гэтым пытанні павінна займаць разумнае, паўтараю, абавязкова разумнае выдаткаванне сродкаў, што, па-мойму, з'яўляецца асновай сучаснага стылю і не толькі ў архітэктуры. Гасцініца «Юнацтва» ў Маскве, відаць, каштуе не даражэй, чым наш Палац прафсаюзаў, а, з пункту гледжання прыгажосці, гэта—неба і зямля. Гасцініца—выдатнейшае збудаванне, а наш Палац прафсаюзаў—узор мяшчанскага густу ў архітэктуры ў самых крыклівых яго формах.

Яшчэ больш востра трэба гаварыць аб сучаснасці ў мастацтве афармлення інтэр'ера, мэблі, рэкламы. Усё гэта тым больш важныя пытанні, што яны датычаць нашага штодзённага жыцця. Асабліва хочацца звярнуць увагу на мэблю. Я амаль штодзённа праходжу ля мэблевага магазіна на Ленінскім праспекце, бачу, як там ледзьве не кранам грузяць на машыны шматпудовыя сталы і канапы. І таму часам крыўдна становіцца за нашых беларускіх мэбельшчыкаў. Гэтая ж старамодная мэбля трапляе ў новыя дамы з сучаснай планіроўкай і будзе служыць некаму не адзін год. Асабліва безгустоўныя сталы, этажэркі і канапы, што выпускаюцца Рэчыцкай, Бабруйскай ды і Мінскай мэблевымі фабрыкамі. Я маю на ўвазе мэблю, якая лічыцца ў прэйскурантах пад артыкуламі 351-БЛ (Рэчыцкая фабрыка), 354-БЛ (Бабруйская), 4460 (Віцебская), 1350-БЛ (Мінская) і г. д.

Вельмі цікава было б наведаць кватэру дырэктара Бабруйскай мэблевай фабрыкі. Няўжо і ў яго стаіць такая ж этажэрка, якую выпускае яго фабрыка? Мне не раз прыходзіла ў галаву і такая думка: праверыць бы, ці носіць дырэктар абутковай фабрыкі чаравікі сваёй фабрыкі ці ён усё ж ходзіць у імпартных? І наогул цікава паглядзець на тых, хто «бласлаўляе» выхад рэчаў шырокага ўжытку ў свет, ці ўжываюць яны тое, што з іх лёгкай рукі ідзе да пакупніка? І ўжо абавязкова архітэктару — аўтару дома на рагу Камсамольскай і праспекта ў Мінску — я б даў кватэру непасрэдна над гэтай неабходнай у жыцці «установай», якую ён запланаваў проста ў жылым доме. Запэўняю вас, што ён больш не стаў бы складаць такія праекты. Такія неабходныя «ўстановы», г. зн. прыбіральні, трэба будаваць не ў жылым доме, а ў скверыку і спускаць гэтыя збудаванні ў зямлю, як гэта, напрыклад, зроблена ў Вільнюсе на плошчы Чарняхоўскага.

І ведаеце, што я яшчэ зрабіў бы, калі б, безумоўна, можна было? Я б першым чынам усіх нашых архітэктараў і будаўнікоў, а галоўнае тых, хто, так сказаць, падпісвае «выпуск у свет» іх твораў, сабраў бы і павазіў па буйнейшых гарадах свету. Я б паказаў ім плошчу Кангрэсаў у Бухарэсце, Палац з'ездаў у Крамлі, кафэ «Нерынга» ў Вільнюсе, новыя дамы ў Лондане, аэравакзал у Бруселі і абавязкова горад Бразіліо. У архітэктараў, магчыма, больш развілася б фантазія. А то, адмовіўшыся ад празмернасцей у архітэктуры, яны ў вельмі многіх выпадках кінуліся ў нейкі прымітыў. Асабліва гэта адносіцца да інтэр'ераў, да якіх вельмі многа можна было б прад'явіць прэтэнзій.

Я вырас у вясковай сялянскай хаце. У нас на покуце стаяў масіўны дубовы стол. Бабуля расказвала, што зрабіў яго яшчэ мой дзед, як толькі яны пажаніліся. Гэты стол застаўся ў маёй памяці мабыць на ўсё жыццё. На адным рагу стала дзед штодзённа крышыў махорку, і ў гэтым месцы ўтварылася глыбокая ямачка. Стол быў зроблены з трох шырокіх абчасаных дошак, якія знізу былі змацаваны шпонкамі. На ножках стала дзед выразаў арнамент. Хата была без падлогі, таму стала ніхто, мабыць, не адсоўваў, так ён і стаяў многія гады на адным месцы. А можа і таму, што ён быў вельмі цяжкі. За сталом уздоўж усёй сцяны стаяла масіўная лава—распілаванае ўздоўж бервяно, пакладзенае на дзвюх тоўстых і даволі высокіх калодках, так што, калі сядзіш на лаве, ногі звычайна да зямлі не дастаюць. Дзед мой быў крыху сталяром, на лаве не раз пілаваў, сек, і яна нават не гойдалася.

І вось калі я гляджу на мэблю, што выпускаецца многімі нашымі фабрыкамі, на многія мінскія інтэр'еры, то мне ўспамінаецца наша хата: ёсць нешта ў іх ад таго дзедавага стала з арнаментам на ножках і той дзедавай лавы. Я не раз думаў аб праблеме нацыянальных традыцый у архітэктуры і ў інтэр'еры. Можа, гэта і ёсць элемент нацыянальнай асаблівасці? Не, безумоўна, не. Нацыянальны характар у архітэктуры і інтэр'еры трэба было б шукаць у агульным афармленні, у нейкай нацыянальнай афарбоўцы. Ну, вось, напрыклад, кафэ «Нерынга» ў Вільнюсе. Нерынга—гераіня літоўскай народнай казкі. Роспісы на сценах кафэ—на тэму гэтай казкі. Вось, бадай, адзінае, што і надае нацыянальны каларыт усяму інтэр'еру. Ну, а іншае ўсё, пачынаючы ад формы столікаў і планіроўкі і аздаблення сцен (сцены абшыты белымі чыстымі дошкамі) і канчаючы асвятляльнай арматурай і дзвярной клямкай, каванай пад старое жалеза, усё гэта створана з вялікім мастацкім густам самай высокай ступені, скампанавана мастакамі-прафесіяналамі высокага класа. Аўтары гэтага кафэ—архітэктары-мастакі браты Насвіцісы.

А ўзяць, напрыклад, кафэ-аўтамат на плошчы Перамогі ў нас у Мінску, яго нядаўна рэканструяваную палавіну. Гэта пакуль што лепшы інтэр'ер такога плана ў нашым горадзе, першая ластаўка. На жаль, ён ні ў якое параўнанне не можа ісці з кафэ «Нерынга». Гледзячы на афармленне гэтага кафэ, думаеш: як многа ўсё ж тут ад дзедавага стала, нечага такога дубовага, з-пад сякеры.

Інтэр'еры кафэ і рэстаранаў у Мінску («Вясна», «Зара», «Нёман») у большасці зроблены страшна прымітыўна або проста з дрэнным густам.

Даўно настаў час заняцца інтэр'ерамі, афармленнем грамадскіх памяшканняў у Мінску, асабліва тэатраў, клубаў і кінатэатраў, дзе бывае многа людзей.

Але для таго, каб нешта змянілася ў гэтай справе, добрым сучасным густам павінны валодаць кіраўнікі такіх устаноў, як Дзяржбуд БССР і упраўленні па справах архітэктуры пры выканкомах. І не толькі валодаць, а і насаджаць яго, укараняць. Дарэчы, іншы раз ідучы па вуліцах Мінска і натыкаючыся на ўсе гэтыя ўзоры безгустоўшчыны, міжволі пытаеш: а ці ёсць наогул у Мінску галоўны архітэктар і якія на ім ляжаць абавязкі? Бо хто, як не ён, у першую чаргу, павінен адказваць за эстэтычны воблік нашага горада?

Калі пастарацца неяк абагуліць думкі аб сучаснасці архітэктурнага стылю, то, мне здаецца, трэба было б пачаць прыкладна з гэтага: дом складаецца з кватэр. Я хачу, каб кватэра, акрамя таго, што была максімальна простая і разумна спланаваная, была яшчэ максімальна светлая. Вокны павінны быць вельмі вялікія, разы ў два-тры большыя, чым, напрыклад, у маёй кватэры, а то і на ўсю сцяну. Балкон мой таксама, каб быў вялікі і каб адгароджаны ад суседавага сценкай. Далей, я, напрыклад, не хачу жыць на першым паверсе. Значыць, трэба рабіць дом без першага паверха або на калонах. Не трэба ў доме ніякага падвала і ўжо ні ў якім выпадку паўпадвальнай кватэры, у якой вокны напалавіну выглядаюць з зямлі, а ў яме перад акном заўсёды поўна смецця. Напэўна, прасцей было б падняць гэтую частку дома, скажам, на паўметра, каб вокны выйшлі з зямлі. Жыць на чацвёртым і пятым паверсе—высакавата без ліфта. А зрабіць ліфт у невысокім доме—неэканамічна. Значыць, трэба будаваць дамы дзесяці-пятнаццаціпавярховыя з ліфтамі. Усе будуць задаволены і не будзе розніцы, на якім паверсе ты жывеш. Я не эканаміст, але мне здаецца, што пабудова замест некалькіх трох-чатырохпавярховых дамоў адзінага дванаццаціпавярховага з такой жа жылой плошчай абыдзецца больш танна. Зрабіць ля яго ў два разы шырэйшую вуліцу, не агароджваць яго, не рабіць у доме падвалаў, не ляпіць аздоб на сценах і г. д. Калі дом будзе пабудаваны з улікам гэтых патрабаванняў, ён будзе адрозніваецца і па свайму вонкаваму выгляду. Перагародкі паміж балконамі, вялікія вокны, калоны замест першага паверха або суцэльнае шкло вітрын магазіна і нададуць дому той абсалютна іншы характар, другі выгляд. Гэта і будзе адной з рысаў сучаснасці архітэктурнага стылю.

Я не раз задумваўся і над такім пытаннем, як жа развіваць нацыянальныя традыцыі ў беларускай архітэктуры і ці ёсць яны наогул, гэтыя традыцыі? Што ўзяць за аснову, ад чаго, так сказаць, пачаць танцаваць. Ці ўзяць за аснову архітэктуру нашых старэйшых гарадоў—Полацка, Гродна або іншыя збудаванні, такія, як цэрквы, замкі і г. д.? Пытанне вельмі складанае. На маю дылетанцкую думку, трэба было б усё ж пачынаць ад Лангбарда, г. зн. ад Дома ўрада. Вось такім бы, ці правільней кажучы, у такім стылі і будаваць далей праспект—шкло, бетон, простыя лініі. Мне здаецца, у канчатковым выніку гэта было б штосьці падобнае да Палаца з'ездаў у Крамлі, аўтобуснага вакзала ў Кіеве, аэравакзала ў Бруселі, плошчы Кангрэсаў у Бухарэсце, горада Бразіліо ў Бразіліі, гасцініцы «Юнацтва» ў Маскве і г. д. Вось, мне здаецца, правільная дарога, па якой трэба было ісці архітэктуры Мінска.

Магчыма, я памыляюся. Многія архітэктары, так сказаць, «айцы» горада, асабліва тыя, што выхаваны на архітэктуры Ленінграда, на класіцызме XVIII стагоддзя, у многім будуць не згодны са мною. Аднак я застаюся пры сваёй думцы і ўпэўнены, што будучыня ўсё ж за сучасным напрамкам у архітэктуры.

Я лічу, што абавязкова пры нашым тэатральна-мастацкім інстытуце трэба адкрыць хоць бы невялікае архітэктурнае аддзяленне, каб рыхтаваць там архітэктараў-мастакоў. А то наш політэхнічны інстытут выпускае толькі архітэктараў-будаўнікоў і архітэктараў-інжынераў, а не архітэктараў-мастакоў. А гэта, безумоўна, не тое самае.

## Справаздачна-перавыбарны

23 кастрычніка адбыўся справаздачна-перавыбарны сход у партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР. Даклад аб рабоце бюро партарганізацыі зрабіў яго сакратар І. Грамовіч. У спрэчках выступілі А. Бажко, П. Броўка, Я. Герцовіч, К. Кірэенка, Ул. Нядзведскі, Р. Сабаленка, М. Хведаровіч, Ул. Юрэвіч.

Сход выбраў новы склад партыйнага бюро. У яго ўвайшлі Э. Агняцвет, П. Броўка, Е. Лось, Я. Казека, А. Кулакоўскі, Ул. Нядзведскі, Н. Пашкевіч, Г. Папоў, А. Русецкі, А. Савіцкі, Я. Сяміжон. Сакратаром партбюро абраны А. Русецкі.

# Да дзён знамянальных

На ўскраіне вуліцы Барыкіна ў мікрараёне пасёлка «Фестывальны» ў Гомелі адкрыта 3-я гарадская бібліятэка. З першых жа дзён тут многа наведвальнікаў.

Наш няштатны карэспандэнт В. Старчанка сфатаграфаваў бібліятэкарку Н. Мядзведзеву ў час выдачы кніг чытачам.

## ПЛАНЫ — ДАТЭРМІНОВА

Сярод работнікаў кінасеткі Магілёўскай вобласці разгарнулася сацыялістычнае спаборніцтва за дастойную сустрэчу Кастрычніка. Кінамеханікі пераглядаюць раней узятыя абавязацельствы. Каля 50 сельскіх кінамеханікаў ужо выканалі гадавыя планы.

Кінафікатары Чавускага раёна ўзялі абавязацельствы гадавы план выканаць да 7 лістапада.

Перагледзелі свае абавязацельствы кінамеханікі Клімавіцкага раёна, якія носяць высокае званне калектыву камуністычнай працы. 12 кінамеханікаў раёна выканалі гадавыя планы.

Добрых паказчыкаў у сацыялістычным спаборніцтве дасягнулі работнікі кінасеткі Касцюковіцкага, Слаўгарадскага, Клічаўскага, Глускага і Магілёўскага раённых аддзелаў культуры.

М. ЖАЎЛАКОЎ.

## ДОБРЫЯ ВЕСТКІ

● З кожным годам пашыраецца сетка стацыянарных кінаўстановак у Лепельскім раёне. Новая ўстаноўка пачала працаваць у клубе вёскі Кашчына. Яе абслугоўваюць лепшыя кінамеханікі раёна Іван Лях і Зіна Вайцахоўская.

Стацыянарныя кінаўстаноўкі будуюцца ў вёсках Забор'е і Ляхавічы.

М. ГАРПЕНІК.

● Калгас імя Шчорса — буйнейшы ў Навагрудскім раёне. Два гады назад у сельгасарцелі было распачата будаўніцтва мураванага тыпавога будынка Дома культуры. Нядаўна клуб быў здаць ў эксплуатацыю. Тут пачалі працаваць харавы і танцавальны гурткі.

● Днямі Стаўбцоўская раённая бібліятэка перайшла ў новае памяшканне. Тут прасторнае кнігасховішча, чытальная зала, міжбібліятэчны абанемент, пакой камплектавання бібліятэчак-перасовак.

Раней жа гэтая бібліятэка доўгі час мясцілася ў цесным, няўтульным будынку. У невялічкіх пакойчыках захоўвалася каля 30 тысяч тамоў кніг.

● У пасёлку Максімаўка Барысаўскага раёна адкрыт новы кінатэатр «Камунар». У ім — глядзельная зала на 120 чалавек. Рабочыя торфапрадпрыемства рэгулярна праглядаюць новыя кінафільмы.

А. БЕНЯНСОН.

## ДЛЯ НАВУКОВЫХ РАБОТНІКАЎ

На другім паверсе галоўнага корпуса Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Ул. І. Леніна адкрыта чытальная зала для навуковых работнікаў і аспірантаў. Тут створаны ўсе ўмовы для плённай работы. У чытальнай зале адкрыты свабодны доступ да твораў класікаў марксізма-ленінізма, а таксама да навуковых і навукова-папулярных часопісаў, якія атрымлівае універсітэт. На сталах раскладзена шмат свежых навуковых часопісаў, якія выдаюцца ў краінах народнай дэмакратыі, Англіі, Францыі, ФРГ, ЗША і іншых краінах. У вітрынах выстаўлены новыя аўтарэфераты.

Заказы чытачоў работнікі чытальнай залы Л. Міцкевіч і Р. Ляховіч выконваюць хутка і дакладна. Навуковыя работнікі і аспіранты вельмі задаволены клапатлівым абслугоўваннем.

М. БАНДАРЭНКА.

## РАДЫЁ Ў КОЖНЫМ КАЛГАСЕ

Асабліва плённа працавалі мінскія радыёфікатары ў гэтым годзе. Радыёлініі працягнуты ў далёкія ад раённых цэнтраў калгасы Міншчыны.

Нядаўна закончана радыёфікацыя вёсак Лагойскага, Плешчаніцкага, Пухавіцкага, Любанскага і Уздзенскага раёнаў. Гэта — цудоўны падарунак калгаснікам да свята Кастрычніка.

Вялікай папулярнасцю сярод слухачоў карыстаецца Народны хор будаўнічага трэста № 5 Мінска. Зараз калектыў развучвае новыя песні да 45-й гадавіны Вялікага Кастрычніка, з якімі будзе выступаць у святочныя дні. Фота Ул. КРУКА.

# ЗАЎСЁДЫ СЯРОД ЛЮДЗЕЙ

**Алесь ЕСАКОЎ.**

Гэтая сустрэча з Канстанцінам Міхайлавічам адбылася неяк выпадкова ў Доме ўрада, дзе адразу пасля вайны знаходзіўся Саюз пісьменнікаў Беларусі.

— Чуў. чуў, Алеська, пра цябе, — сказаў Колас. — Ты партызаніў у нашых нёманскіх краях, недзе недалёка ад Мікалаеўшчыны.

— Партызаніў...

— Малайцы хлопцы, што заўзята баранілі родную зямлю. Адданасцю мы і моцныя.

— А мы часта ўспаміналі вас ля кастра, у палатцы ці на прывале, — сказаў я. — Ваш Талаш быў нам прыкладам.

Потым, памятаю, я гаварыў пра коласаўскую паэму «Суд у лесе», пра вершы паэта, якія мы чыталі ў партызанскіх газетах. Вельмі зацікавіўся Колас папулярнасцю вобраза дзеда Талаша на Палессі, дзе партызан старога ўзросту называлі талашоўцамі. Пісьменнік уважліва слухаў, як герой аповесці «Дрыгва» натхняў людзей на свяшчэнную барацьбу з ненавісным ворагам.

Час ад часу Канстанцін Міхайлавіч перапытваў, гаварыў сам.

— А я ў гарачым Узбекістане ніводнага дня не пераставаў думаць аб родным краі, аб сваіх людзях, партызанах. Пісаў патроху. Сачыў па газетах за тым, што тут у вас дзеелася.

Потым, у час працы ў газеце «Літаратура і мастацтва», я некалькі разоў сустракаўся з Коласам. Памятаю, у 1947 годзе, да 30-годдзя з дня смерці Максіма Багдановіча, мы вырашылі папрасіць Канстанціна Міхайлавіча напісаць пра гэтага выдатнага беларускага літаратара.

Жыў тады Колас на тым жа месцы, дзе цяпер яго музей, але толькі не ў камяніцы, а ў драўляным доміку, ля якога раслі сосны. Усё напамінала яму родны край. Паэт разводзіў тут сад, увесну сеяў жыта, авёс і ячмень, а пад канец лета касіў ці жаў іх. Сустрэў я Канстанціна Міхайлавіча ў двары: ён займаўся нейкай гаспадарскай справай.

— Заходзь, заходзь, — ветліва запрасіў ён. — Добра, што вы, хлопчыкі, не забываеце мяне. То адзін, то другі забяжыць. І заданні рэдакцыйныя мне прыемна выконваць...

Размова зайшла аб справе, па якой я прыйшоў.

— Канстанцін Міхайлавіч, — спытаў я, — а чаму вы пішаце пра Багдановіча як крытыка, а не як паэта?

— Справа ў тым, што Багдановіч быў паэтам і ў крытыцы. Паэзія гэтага выдатнага песняра прызнаецца, вершы яго выдаюцца, а яго крытычная спадчына чамусьці забываецца. А гэта ж вялікі скарб, на якім варта выхоўваць і нашу літаратурную моладзь. Багдановіч добра разумеў сутнасць нашай нацыянальнай культуры — мовы, літаратуры, гісторыі. Гэта быў надзвычай эрудзіраваны чалавек, і нам бы даўно было варта перавыдаць яго крытычныя артыкулы, пісьмы і ўсё іншае.

Я выняў з кішэні гранку з нататкамі Коласа.

— Ці не мой артыкул ты трымаеш?

— Ваш.

— Ну, дык давай. Перачытаю ў вольную часіну, можа, тое-сёе і папраўлю ці дадам. Калі напішаш, дык адчуваеш, што думак заўсёды больш было і што яны значна багацейшыя, чым на паперы, бо думка хутчэй узнікае і часам не ўгонішся за ёю ці проста не ўправішся занатаваць. А калі падумаеш, то яна часам і вяртаецца да цябе, — вось тады ўжо і трымай яе, як тую пташку.

Потым Канстанцін Міхайлавіч гаварыў пра сваю сядзібу, пытаўся, хто з пісьменнікаў заходзіць у рэдакцыю, чым цікавяцца, што пішуць, над чым працуюць. Запомнілася мне і такая дэталь з нашай размовы. Мне было вядома, што ў свой час М. Багдановіч крытыкаваў вершы Я. Коласа і ён правільна ўспрыняў крытыку. І вось калі цяпер ён убачыў, што мяне гэта цікавіць, то сказаў прыблізна наступнае:

— Правільнай і шчырай крытыкі нельга цурацца. Горш, калі пісьменніка не заўважаюць. А разумную заўвагу заўсёды трэба прадумаць. Гэта памагае адолець недахопы, імкнуцца да новага рубяжу. Чалавек, які спыняецца ў сваім літаратурным росце, часам паўтарае і сябе і іншых, і чытаць творы яго нецікава.

Сустракаўся я з Якубам Коласам і пазней, працуючы літаратурным кансультантам у Саюзе пісьменнікаў БССР. Пазвоніць ён часам у саюз, пытаецца «Петруся», так ён называў Пятра Усцінавіча Броўку, а яго няма. Па голасу ён пазнаваў мяне. Пачне гаварыць. Кажа, што шмат пісем пішуць пачынаючыя пісьменнікі, калгаснікі, настаўнікі.

Канстанцін Міхайлавіч заўсёды горача гаварыў аб надзённых праблемах жыцця. У многіх пісьмах, якія ён атрымліваў, закраналася і пытанне роднай мовы. Колас удзяляў яму вялікую ўвагу. Ён шмат гутарыў аб мове з пісьменнікамі, вучонымі, настаўнікамі. Я памятаю выступленне Канстанціна Міхайлавіча ў Саюзе пісьменнікаў, якое ён прысвяціў разгляду некаторых буйных празаічных твораў нашых пісьменнікаў — М. Лынькова «Векапомныя дні», І. Мележа «Мінскі напрамак», І. Шамякіна «Глыбокая плынь». Тады ён зрабіў шмат слушных заўваг і адносна мовы. Колас папракаў некаторых маладых пісьменнікаў за тое, што яны вельмі захапляюцца кніжнай мовай і мала звяртаюць увагі на тую мову, на якой гаворыць народ. Гэта, казаў ён, сведчанне таго, што пісьменнікі слаба ведаюць жыццё.

Колас шмат чытаў. Ён сачыў за развіццём не толькі сваёй, але рускай, украінскай і ўвогуле ўсіх нацыянальных літаратур. Што да ацэнак, дык ён быў вельмі асцярожны: любіў узважыць, вывучыць, памеркаваць, а потым ужо выказваў сваю думку і выказваў так, каб яна не дакорам была, а памагала чалавеку выправіць памылку ці недахоп, каб яна накіроўвала яго. Таму пісьменнікі ўсіх пакаленняў ішлі да Коласа за парадай, раіліся з ім як з родным, як з настаўнікам, ведаючы, што ён нешта падкажа, нешта вельмі важнае, вельмі каштоўнае. Колас часта і крытыкаваў, бо яго вопытнае вока бачыла і добрае і дрэннае. Гэта лічыў ён сваім абавязкам, абавязкам настаўніка і пісьменніка.

Якуб Колас заўсёды раіў прыслухоўвацца да народа, жыць яго думкамі, заўсёды быць сярод людзей. Добра, гаварыў ён, што Кузьма Чорны любіў ездзіць у трамваях, бываць на кірмашах, у судах, на вакзале, усюды, дзе ёсць народ, услухоўваўся ў яго гаворку: аб чым і як гавораць людзі? Вось так рупліва трэба ўсім пісьменнікам па крупіцы збіраць дыяменты народнай мудрасці. Тады пісьменнік выканае свой абавязак. Ідучы ад жыцця, ад народа, ніколі не памылішся, бо ты будзеш ісці ў нагу з часам і адказваць якраз на тыя пытанні, якія ставіць перад табой сучаснасць. Так часта любіў Канстанцін Міхайлавіч гаварыць пісьменнікам і журналістам, з якімі яму часцей за ўсё даводзілася сустракацца.

Мы бачылі, як цесна быў звязаны з народам і сам Якуб Колас. Аднойчы ў газетах з'явілася інфармацыя аб тым, што на беларускім Палессі прарваўся фантан нафты. Неўзабаве гэтую нафту мы ўбачылі ў Саюзе пісьменнікаў у Мінску. Яе прывезлі палешукі, каб перадаць Якубу Коласу, які нямала пісаў пра Палессе і дбаў пра тое, каб яго ператварыць у квітнеючы край. Канстанцін Міхайлавіч узяў шклянку з бурай, як тарфянішча, масай і пачаў пільна разглядаць. Потым заўважыў:

— Я ведаў, што беларуская зямля добра родзіць жыта, бульбу, авёс, грэчку, але што яна можа даваць і нафту, гэтага я ніколі не чуў. Багатая, вельмі багатая наша зямля!

Назаўсёды я запомніў гэтыя словы. І думаю зараз, што сапраўды багатая тая зямля, якая нарадзіла такіх волатаў, як Янка Купала і Якуб Колас.



**Якуб Колас у 1946 годзе.**

**Здымак публікуецца ўпершыню.**

Фота **А. САПЕТКІ.**

# ХРОНІКА
## КОЛАСАЎСКІХ ДЗЁН

□ **Ранішнік, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа, адбыўся ў Прылуцкай сярэдняй школе Мінскага раёна. Удзельнікі яго праслухалі даклад супрацоўніка Музея Якуба Коласа М. Жыгоцкага аб жыцці, творчай і грамадскай дзейнасці беларускага песняра, аб творах, напісаных для дзяцей. Пасля даклада вучні чыталі вершы паэта.**

**У той жа дзень літаратурны вечар, прысвечаны народнаму паэту Якубу Коласу, адбыўся ў інтэрнаце будтрэста № 4 Мінска. На вечары з успамінамі аб паэце выступіў настаўнік-пенсіянер Язэп Францавіч Сушынскі, які добра ведаў Якуба Коласа.**

□ **Літаратурны ранішнік для дзяцей, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, адбыўся ў клубе будтрэста № 1 горада Мінска. Яго арганізавала Абласная дзіцячая бібліятэка. На ранішніку выступіў родны брат Коласа Іосіф Міхайлавіч Міцкевіч. Ён расказаў аб мясцінах, дзе прайшлі дзіцячыя гады вялікага пісьменніка, прачытаў урыўкі з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля».**

**Я. МІХАЙЛАЎ.**

# ДАКУМЕНТЫ СВЕДЧАЦЬ...

У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве (Масква) выяўлены невядомыя раней дакументы, якія праліваюць святло на адзін з мала даследаваных перыядаў жыцця Я. Коласа.

Як вядома, пасля нелегальнага з'езда настаўнікаў, што адбыўся ў ноч з 9 на 10 ліпеня 1906 года ў сяле Мікалаеўшчына (Нікольск), паэт быў звolены з пасады і аддадзены пад нагляд паліцыі. Пад пільным наглядам жандараў паэт знаходзіўся да самага арышту. Аб тым, як ажыццяўляўся гэты «нагляд», і расказваюць новыя архіўныя дакументы.

У першым з іх, што датуецца 31 сакавіка 1907 г., прыводзяцца дакладныя біяграфічныя звесткі аб паэце. У гэтым дакуменце, які быў накіраваны начальнікам Мінскага губеранскага жандарскага ўпраўлення ў дэпартамент паліцыі, звяртае на сябе ўвагу адказ паэта на пытанне аб эканамічным становішчы бацькоў: у анкеце — прочарк. У графе аб сродках да жыцця паэт адзначае: асабісты заробак. На пытанне: «На чый кошт выхоўваўся?» — зноў пастаўлен прочарк.

Жандары ні на хвіліну не спускалі вачэй са свайго падапечнага: літаральна аб кожным яго кроку яны паведамлялі ў Мінскае губеранскае жандарскае ўпраўленне, а адтуль ужо ляцелі дэпешы ў Санкт-Пецярбург, у дэпартамент паліцыі. Варта было Якубу Коласу на некаторы час выехаць з Нікольска (Мікалаеўшчыны) у Вільню, як услед за ім пасылалася данясенне ў Віленскае жандарскае губеранскае ўпраўленне з просьбай «об арестовании названного Мицкевича и препровождении этапным порядком в распоряжение Минского уездного исправника для водворения на постоянное жительство в село Никольск».

Наступнае данясенне звязана са зваротам паэта з Вільні ў Мікалаеўшчыну. Начальнік Мінскага губеранскага жандарскага ўпраўлення паведамляе, што «состоящий под особым надзором полиции бывший учитель Константин Михайлов Мицкевич 27-го июня сего года возвратился из города Вильно в село Никольское, Сверженской волости, Минского уезда».

У данясенні ад 21 студзеня 1908 г. паведамляецца аб пераездзе паэта ў маёнтак Габрыелаў Магілёўскай губерні з тым, каб там быў над паэтам устаноўлены асобы нагляд з боку начальніка Магілёўскага губеранскага ўпраўлення.

Аб устанаўленні гэтага «асобага нагляду» сведчыць сакрэтнае данясенне начальніка Магілёўскага жандарскага ўпраўлення ад 27 лютага 1908 г. Вось яно:

«Привлеченный при Минском губернском жандармском управлении к дознанию по обвинению в преступлении, предусмотренном 126 ст. Угол. Улож., бывший учитель народного училища Константин Михайлов Мицкевич, отданный под особый надзор полиции, в половине января сего года прибыл в им. Гобриелево, Обчугской волости Сеннинского уезда, где за ним учрежден сказанный надзор».

У данясенні ад 21 красавіка 1908 г. зноў паведамляецца аб вяртанні Канстанціна Міхайлавіча ў Мікалаеўшчыну.

Вярнуўся паэт у родныя мясціны 11 красавіка, а 15 верасня 1908 г. адбыўся суд над «парушальнікам парадку». Суд асудзіў паэта на тры гады зняволення. «...А за што, — пісаў паэт у адным з артыкулаў, — за тое, што вучыцель асмеліўся думаць іначай, як прыказвае яму цыркуляр начальства; за тое, што ён памкнуўся праліць луч свету ў цёмную вёску, пасмеў выйсці з вузкіх асадак міністэрскай праграмы... за тое, што народ стаў верыць і любіць вучыцеля — вучыцель хацеў падаць руку свайму сляпому брату — мужыку; за тое, што вучыцель пазнаў у сабе чалавека і заявіў аб тых правах чалавечых, каторыя бог даў кожнаму...»*.

Новыя архіўныя дакументы даюць магчымасць не толькі ўдакладніць факты з біяграфіі паэта, але і глыбей зразумець тыя канкрэтна-гістарычныя абставіны, якія ў значнай ступені фарміравалі светапогляд паэта і спрыялі нараджэнню многіх вобразаў яго будучых твораў.

**Р. ГУЛЬМАН.**

*) «Наша ніва», 1907, № 20.

**Аркадзь МАРЦІНОВІЧ**

*Раздзел з аповесці*

# ЛЯ ПАХІЛАЙ ВЯРБЫ

**Цяжкі жыццёвы шлях выпаў Андрыяну Цітавічу Шаблюку. Нешчаслівае каханне. Суровыя выпрабаванні вайны. Нялёгкая праца работніка сельскага райкома партыі ў пасляваенныя гады. Жыццё вучыла і гартавала героя.**

**Аб гэтым расказвае аповесць «Водгулле», урывак з якой тут публікуецца.**

**Андрыян Цітавіч усынавіў маленькага Уладзіка. Хлопчык вырас, скончыў школу, стаў вучыцца ў інстытуце. І вось да яго даходзіць чутка, хто яго сапраўдны бацькі. Ён прыязджае на вакацыі. Андрыян Цітавіч мусіў усё расказаць Уладзіку...**

**Аўтар.**

— Вайна з гітлераўцамі застала мяне на заходняй граніцы, у Літве. Ты, канешне, ведаеш з кніг, які быў пачатак той вайны. А я бачыў сваімі вачыма, бачыў і перажыў тое, што наўрад ці могуць расказаць кнігі. Цяжка было, і горка, і крыўдна. От і цяпер, праз столькі год, як успомню наша адступленне, дык быццам нешта душыць мяне, гняце, і балюча ажываюць жахі тых дзён. Як магло здарыцца такое? Мы гэта ведаем цяпер, але хіба лягчэй нам, калі ведаем... Танкавы полк, у якім я служыў, перастаў існаваць ужо на другі дзень вайны. Каторыя танкі выйшлі са строю ў баі, а большасць дык мы самі пападпальвалі, а то патапілі ў Віліі, каб ворагу не дасталіся. Не было ж ні гаручага, ні снарадаў. А немец пёр на ўсход. Кліны, абхваты, акружэнні... Па лясах, па прасёлачных дарогах блукалі групкі нашых салдатаў. Пацямнелыя ад гора твары, запалыя вочы з недаверлівым бляскам... Некалькі дзён блукаў і я, прабіраючыся на ўсход, імкнучыся натрапіць на бяздзельную рэгулярную вайсковую часць. Так і дайшоў да родных мясцін. А фронт быў ужо далёка... Я стаў партызанам...

Уладзік слухае, не азываючыся, нічога не пытаючы. Яму карціць хутчэй даведацца самае галоўнае, але адначасна неяк і боязна перад тым галоўным, быццам яно можа нешта перайначыць у жыцці, быццам можа назаўсёды адгарадзіць ад звычнага і роднага.

Боязна і Андрыяну Цітавічу. Ён любіць Уладзіка і не хоча яго страціць. Але трэба расказваць. Ён успамінае даўно перажытае, яно — як рана, якая ад'ятрылася, бо ў тым перажытым засталася часцінка Андрыянавай душы. Ён жа кахаў Юльку.

Тады, у сорак першым, Андрыян застаў Юльку ўжо ўдавой. Да той пары ён і не ведаў і не цікавіўся, ці замужам яна. У Клёнавічах яшчэ не было ні старасты, ні паліцэйскага ўчастка. І Андрыян не баяўся паказвацца на вуліцы. От і ўбачыў на лавачцы пад клёнамі Юльку з маленькім дзіцяткам. У тыя дні на душы ў яго была адна пякучая гарката. Вайна, вялікае ўсеагульнае гора прымушала чалавека забывацца ўсё іншае. І, убачыўшы Юльку, Андрыян не адчуў ні непрыязнасці да яе, ні ранейшага пачуцця; з'явілася толькі ніякаватасць, што ён нічога не ведае пра яе; і яшчэ падумалася, што ў нешчаслівы час нарадзілася гэтае дзіця.

— Дык ты ўжо мама? — прамовіў ён, не знайшоўшы нічога іншага сказаць.

— Мама, — адказала яна голасам, у якім нельга было пазнаць ранейшай задзірыстай і гуллівай Юлькі.

— А хто ж бацька?

— А ты і не ведаеш?

— Не.

Юлька доўга маўчала, нахіліўшыся над дзіцём, хаваючы свой твар ад Андрыяна.

Андрыян ужо не рад быў, што пачаў распытваць.

— Няма бацькі... Быў і няма, — нарэшце адказала яна. Вейкі яе часта-часта заміргалі, і раптам сыпанулі слёзы. Яны падалі на белае ўбранне дзіцяці, расплываліся цёмнымі круглымі плямкамі; Андрыян бачыў, як гэтых плямак станавілася больш і больш, ён баяўся, каб хаця слёзы не ўпалі на тварык дзіцяці, каб хаця не парушылі яго бесклапотнага сну. Сказаць бы пра гэта Юльцы, але ён не меў сіл глянуць ёй у твар, не меў сіл вымавіць хоць бы слова... І думкі ліхаманкава мітусіліся ў галаве, мільгалі малюнкі то нядаўніх баёў, то свайго блукання па захопленай ворагам зямлі, то далёкіх сустрэч з Юлькай, і над усім гэтым вісеў балючы дакор сабе і камусьці другому.

— Што ж зробіш, вайна, — нарэшце цераз сілу прамовіў Андрыян, ведаючы, што гэтыя халодныя суцяшальныя словы не памогуць Юльчынаму гору. Яму цяжка было стаяць перад ёю, але не ведаў, як пакінуць яе, няўцешную. Якраз выбег яе малодшы брацік Вася, стаў клікаць Юлю нечага ў хату. Так яны разышліся.

Усю ноч ён амаль не спаў. Даймалі думкі аб вайне, перад вачыма стаяў вобраз Юлькі. Толькі пачаў засынаць, як памроілася, быццам яе слёзы падаюць не на дзіця, а на Андрыянавы шчокі, і ён, адчуваючы іх салёную гарачыню, прачнуўся і ўжо больш не мог заснуць.

Раніцаю запытаўся ў маці пра Юльку. Маці расказала, што Юлька летась выйшла замуж за Антона — «за прымака ўзяла», што Антон на другі дзень вайны загінуў у час бамбёжкі эшалона, у якім ехалі мабілізаваныя, яшчэ бяззбройныя людзі на вайну.

— От і жыццё: якіх дваццаць гадоў жанчыне, а ўжо ўдава, сын-сірата, — самотна закончыла маці.

У Андрыяна прамільгнула думка: мо гэта воля лёсу, што Антон загінуў, а ён аказаўся ў Клёнавічах. Ён адганяў прэч гэтую думку. Яму здавалася: так думаць — усё роўна, што радавацца смерці Антона, а гэта ўжо подласць. Але думка, раз прыйшоўшы, не пакідала Андрыяна, урэшце яна ўжо нервавала яго, і ён вырашыў асцерагацца сустрэч з Юлькай.

А тут якраз праз пару дзён у Клёнавічах паявіўся Мікульскі. Ён стаў Андрыянавым збавіцелем ад душэўных пакут, ад бяздзейнасці. О, як удзячны быў Андрыян яму!..

Андрыян Цітавіч каторы раз напхаў тытуню ў люльку, не спяшаючыся чыркнуў запалку, коратка зацягнуўся востра духмяным дымам і паўтарыў:

— Я стаў партызанам... Добры чалавек напаткаўся мне — Мікульскі Рыгор Апанасавіч... Цяпер ён у абкоме партыі працуе... Я калі-небудзь табе раскажу пра яго падрабязна... Не аднойчы ён ратаваў мяне, рабіў для мяне такое, што не забываецца ніколі. А от цяпер мы з ім зусім як ворагі. Бывае ж так у жыцці... Я табе другім разам раскажу пра гэта... Дык от, Мікульскі быў членам падпольнага райкома партыі, яго спецыяльна пакінулі на акупіраванай фашыстамі тэрыторыі для арганізацыі партызанскага атрада. З ім я і прайшоў усю вайну.

Усю вайну...

За тры гады лясного жыцця ўсяго зведаў і пабачыў Андрыян Цітавіч. Не раз выпадала быць на валаску ад смерці. Не раз удзельнічаў у дзёрзкіх аперацыях, якія прыносілі салдацкае задавальненне і славу. Але, успамінаючы свой партызанскі шлях, Андрыян Цітавіч заўсёды найперш згадваў той выпадак, пра які павінен расказаць зараз Уладзіку.

Аднойчы невялікая група партызан вярталася з задання пад камандай Андрыяна. Ішлі лесам, у аколіцах Клёнавіч. Была нядзеля, стаяла гарачыня, смаліла сонца. У лесе хоць і халадок, але ж так вабіла рэчка: эх, бултыхнуцца б у сцюдзёную ваду, а пасля паляжаць на зялёным, духмяным беразе!..

Выйшлі на ўскрай лесу, глянулі ў бок Ручайкі і хутчэй за дрэвы схаваліся: там, на беразе, было поўна паліцаяў; у выхадны дзень прыйшлі адпачыць, падлюгі... Грымнуць бы па іх залпам. У Андрыяна аж засвярбелі рукі.

За полем, ледзь бачная ў даліне, віднелася стрэхамі ды садамі вёска. Гэта Клёнавічы. Там хата, дзе ён нарадзіўся, дзе прайшло яго маленства і юнацтва. Сіратлівая, пустая хата. Маці памерла ўзімку, Андрыян не змог пабыць і на пахаванні... Што звязвае цяпер яго з роднай вёскай? Юлька? Ну, так, там жыве яна...

Пасля Андрыян не мог прыпомніць, як прыйшло да яго рашэнне рынуцца ў Клёнавічы. Памятае толькі, як сказаў таварышам:

— Хлопцы, паліцаі ж усе купаюцца, а ў гарнізоне, напэўна, адны каравульныя. Прыстукнем?

Ніхто не запярэчыў. Партызаны лесам, паўкругам, абышлі вёску з другога боку.

Да ваколіцы вёскі падысці незаўважнымі было цяжка: толькі паўзком, па-пластунску, можна было пераадолець кіламетравы прамежак ад узлесся да першых вясковых хлявоў.

Паўзучы наперадзе сваіх таварышаў, Андрыян хваляваўся. Ён так верыў у поспех аперацыі, што думаў толькі аб тым, як убачыць Юльку, як скажа, што не забыў яе, не забыў... Ён на момант заплюшчваў свае стомленыя вочы і яго ўяўленне малявала яе вобраз, і тады з нейкай раз'юшанасцю ён поўз наперад і наперад, пакуль не аглядваўся і не бачыў, што сябры адсталі...

У зарасніку крапівы і палыну за глухой сцяной першага хлява спыніліся і хутка вызначылі план дзеяння. Школа, занятая цяпер пад гарнізон, — ледзь не пасярэдзіне вёскі, але воддаль ад вуліцы, на вялізным пляцы. Ідучы дарожкай праз хлявы, лёгка дабрацца да школы. А там — толькі рызыка: заўважаць каравульныя паліцаі, як партызаны будуць перасякаць пляц, — лічы, што ўсё прапала. Пачнецца перастрэлка, узнімецца трывога, а да рэчкі — рукой падаць, хутка папрыбягаюць усе паліцаі. А партызан толькі шасцёра.

Андрыян часам думаў: мо не чапаць паліцаяў, а ціха прабрацца да Юлькі? Але што скажуць таварышы? Скажуць, што з-за бабы павёў іх у пастку... З-за бабы... Хіба хто з іх ведае, якія яго пачуцці... Не, трэба захапіць паліцэйскі ўчастак, а тады... Тады ён мімаходзь, быццам выпадкова ўспомніўшы, заб'яжыць да Юлькі. Ён прапануе ёй ісці ў партызаны. Бо што яе чакае ў Клёнавічах? У Нямеччыну вывезуць або які паліцай ці ўласавец прычэпіцца...

Партызаны рушылі. Прыгінаючыся, перабягалі паўз платы ад будыніны да будыніны. Неўзабаве былі ля школьнага пляца.

Школа — прыцішаная, глухая. Дзверы з процілеглага боку, і гэта самае небяспечнае. Андрыян разумеў, што толькі выпадак, які здараецца надзвычай рэдка, можа паспрыяць удачы задуманай аперацыі. І ён спяшаўся, ужо не могучы сачыць за

(Заканчэнне на 4-й стар.).

*Сярод кніг*

# НЕ ТОЛЬКІ ДЛЯ ЛІНГВІСТА

Адна з першых цяжкасцей, з якой сустракаешся пры знаёмстве з любой навукай — гэта яе тэрміналогія. Інакш кажучы: тыя спецыяльныя словы і спалучэнні слоў, якімі карыстаюцца ў навуковых працах спецыялісты той ці іншай галіны ведаў. Тэрміналогія ў поўным сэнсе з'яўляецца як бы магічным ключом да тайнікоў навукі.

Таму тыя, хто цікавіцца пытаннямі лінгвістыкі, вывучае адпаведную літаратуру, з задавальненнем сустрэлі выхад у свет кнігі старшага выкладчыка Магілёўскага педінстытута А. Л. Юрэвіча «Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў».

Слоўнік задуманы аўтарам не як акадэмічны даведнік, а як навучальны і нават, можна сказаць, навукова-папулярны дапаможнік, разлічаны на шырокія колы чытачоў. Ён прызначаны для таго, каб дапамагчы ім самастойна разабрацца ў беларускай (і не толькі ў беларускай) лінгвістычнай літаратуры, атрымаць першапачатковыя звесткі аб сэнсе і змесце тых ці іншых спецыяльных лінгвістычных паняццяў, абазначэнні якіх можна пачуць на лекцыях, сустрэць у кнігах і г. д. І нашы настаўнікі, выкладчыкі мовы сярэдніх навучальных устаноў рэспублікі, студэнты-філолагі вельмі будуць удзячныя аўтару за яго працу. Тым больш, што падобных слоўнікаў вельмі мала наогул, яны даўно зрабіліся бібліяграфічнай рэдкасцю.

Тэрміналагічны тлумачальны слоўнік кожнай навукі, а тым больш лінгвістыкі, — справа даволі складаная. Асноўная цяжкасць, з якой сустракаецца ўкладальнік — гэта адсутнасць адзінства паміж рознымі вучонымі ў разуменні моўных з'яў, наяўнасць разнастайных лінгвістычных школ з даволі грунтоўнымі разыходжаннямі ў падыходзе да мовы і ў абазначэнні яе з'яў пры апісанні.

А. Юрэвіч у сваім слоўніку раскрывае значэнне розных навуковых паняццяў часцей за ўсё або ў выглядзе кароткага і простага агульнавядомага традыцыйнага азначэння, або ў выглядзе сціслага апісання адпаведнай моўнай з'явы ці ўказання на яе. У вельмі многіх слоўнікавых артыкулах даюцца ілюстрацыі, што дазваляе чытачу самомуназіраць за той моўнай з'явай, якая складае змест тэрміналагічнага паняцця.

Вялікая праца зроблена ўкладальнікам слоўніка па выяўленню сінонімаў у лінгвістычнай тэрміналогіі. Хаця гэта і непажаданая з'ява, але ў практыцы, у навуковых даследаваннях і нават у падручніках па мовазнаўству неаднолькавыя абазначэнні адпаведных моўных з'яў сустракаюцца даволі часта. І пазбавіцца ад гэтага не так проста. Для уніфікацыі тэрміналогіі патрэбна перш за ўсё выявіць усе выпадкі разыходжанняў, разабрацца ў іх прычынах. А. Юрэвіч зрабіў у гэтым сэнсе даволі многа, хаця, зразумела, далёка не ўсе тэрміналагічныя сінонімы ўказваюцца ім пры тлумачэнні тых ці іншых лінгвістычных паняццяў.

У якасці дадатку да слоўніка змешчаны руска-беларускі перакладны тэрміналагічны слоўнік. Гэта дасць магчымасць карыстацца беларускай мовазнаўчай літаратурай чытачам, незнаёмым з беларускай лінгвістычнай тэрміналогіяй.

У складанай і вялікай працы цяжка пазбегнуць і недахопаў. Ёсць яны і ў слоўніку.

Па думцы А. Юрэвіча, яго работу трэба разглядаць, «як магчымы варыянт слоўніка найбольш пашыраных агульнаўжывальных тэрмінаў». Інакш кажучы, «Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў» — слоўнік дыферэнцыяльны. Хоць аўтар і не спыніўся падрабязна ў прадмове на сваіх прынцыпах адбору тэрміналогіі, але пры знаёмстве з саставам слоўніка бачна, што ён уключае ў яго тэрміналогію так званага традыцыйнага мовазнаўства. У слоўнік уключана звыш 1 250 тэрмінаў, прытым тэрмінаў апорных, большасць з якіх з'яўляецца асновай цэлых гнёздаў тэрміналагічнай лексікі. Зразумела, што нельга папракаць аўтара за тое, што ён адабраў 1 250 а не 675 тэрмінаў (як у лінгвістычным слоўніку на ўкраінскай мове Е. В. Крацевіча і Н. С. Радзевіч) або не больш 4 000 (руска-чэшскі слоўнік лінгвістычнай тэрміналогіі, выдадзены ў Празе). Прынцыпы адбору тыпу «агульнаўжывальнасць», «агульнапашыранасць» — вельмі адвольныя і асабліва ў дачыненні да тэрміналогіі, слоў занадта спецыяльных. Але нельга не звярнуць увагі на відавочны недагляд пры адборы. Так, напрыклад, нам здаецца, што не прынцыпамі адбору, а недаглядам трэба тлумачыць адсутнасць у слоўніку такіх тэрмінаў, як **археаграфія** (гэта ж асобная галіна лінгвістычнай навукі), **агіяграфія, антытэза, апелятыў, дыялекталагічны атлас, даслоўны пераклад, афазія і г. д.**

Дарэчы, заўважым таксама, што слоўнік, відаць, быў бы яшчэ больш цікавым, калі б у ім знайшла месца тэрміналогія новых галін у лінгвістычнай навуцы (напрыклад, матэматычнай лінгвістыкі, эксперыментальнай фанетыкі) і новых напрамкаў. У слоўніку дадзена толькі некалькі назваў асобных школ у сучасным мовазнаўстве.

Патрэбна было, як нам здаецца, увесці некаторыя элементы сістэмы пры падачы тэрмінаў у слоўніку. Слоўнік з'яўляецца алфавітным, г. зн. усе тэрміны размяшчаюцца ў алфавітным парадку. Але было б вельмі зручна для чытача, калі б у дадатак да гэтага парадку аўтар звязаў тэрміны шляхам узаемаспасылак у адпаведныя групы. У слоўніку звязаны такім чынам толькі сінанімічныя тэрміны.

У слоўніку адсутнічае таксама, на жаль, спіс асноўных крыніц, выкарыстаных аўтарам пры выбарцы тэрміналогіі і яе тлумачэнні.

У апошні час у славістычнай навуцы распачата вялікая праца па збіранню навуковай лінгвістычнай тэрміналогіі з мэтай яе сістэматызацыі і магчымай уніфікацыі. Створана спецыяльная міжнародная тэрміналагічная камісія з асобнымі камітэтамі ў кожнай славянскай дзяржаве. «Слоўнік лінгвістычнай тэрміналогіі» А. Л. Юрэвіча можа быць выкарыстаны як крыніца беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі ў вялікай і патрэбнай працы гэтага міжнароднага навуковага органа.

**А. КРЫВІЦКІ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

**Хутка на ўсесаюзны экран павінна выйсці новая каляровая карціна «Блакітная цаліна» вытворчасці Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў. Гэтая карціна расказвае аб выкарыстанні вадаёмаў Беларусі для развіцця рыбнай гаспадаркі.**
**НА ЗДЫМКУ — рэжысёр карціны «Блакітная цаліна» М. Гарбуноў і мантажніца студыі В. Шаталава працуюць над дубліраваннем фільма на рускую мову.**
**Фота С. АНАНКІ.**

